# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968
Сакавік-Красавік

Год XVI
№ 2 (107)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVI** **March—April** **№ 2 (107)**

**1968**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI САКАВІК—КРАСАВІК 1968 №2 (107)



УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ, АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР БЕЛАРУСАЎ

і

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Такжа са

СЬВЯТАМ 25-ГА САКАВІКА!

КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ

НАШАЙ ДАРАГОЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

# 50-ыя ўгодкі Б.Н.Р.

Народы — падобна як і адзінкі — родзяцца і паміраюць. Народы не зьяўляюцца на арэну сьвету ў выніку нейкіх (палітычных ці гандлёвых) камбінацыяў. Яны паўстаюць у эвалюцыі чалавецтва, якое сваім пачаткам сягае да аднэй-адзінай сям'і. І з сям'і вырасла грамадзтва, народы.

Кажны народ мае сваю сьведамасьць, якая ёсьць вынікам культурнай дасьпеласьці, якая аднак у розныя эпохі сваей гісторыі праяўляецца разнаяка.

Адзінасьць расы, мовы, рэлігіі, уласнай дзяржавы і ўраду — гэта дзейнікі, што гуртуюць і спайваюць народ у вадно, — даюць яму быццам адну душу, якую можна называць н а р о д н а й .

Можна спрачацца, які з гэтых элемэнтаў самы істотны і вартасны. Ніхто аднак не запярэчыць, што народ пачынае штосьці значыць тады, калі мае ўжо сваю д з я р ж а в у , у якой абараняецца прыроднае права чалавека да роднай мовы і дзе даецца поўная свабода традыцыі і звычаяў — словам — права і магчымасьць жыцьця культурнага чалавека.

Дзяржава аднак пад ціскам розных гістарычна-вонкавых абставінаў можа перастаць існаваць. — Інакш н а р о д ! — Ён можа і павінен жыць і разьвівацца. Нават у чужой яму дзяржаве, нават у варожай, народ не павінен чэзнуць, але жыць і тварыць — у навуцы і мастацтве, у матар'яльных і духоўных вартасьцях — тварыць культурныя здабыткі на карысьць сваю і ўсяго чалавецтва. Ведама, у чужой дзяржаве народ мусіць працаваць і разьвівацца паводле магчымасьці і свайго прыроднага генія, хаця — пры сучасных умовах — нажаль — бяздзержаўныя народы звычайна вянуць дый занепадаюць, як тыя краскі перасаджаныя на пустую зямлю.

*

Прайшло нямала часу пакуль стабілізавалася паняцьце «Б е л а р у с ь» з усімі тымі элемэнтамі, без якіх мы сяньня Беларусі ня можам уявіць.

Беларусь-Крывічоў, Дрыгвічоў, Радзімічаў, — Беларусь удзельных княстваў, — Беларусь Вялікага Княства Літоўскага, — нарэшце Беларусь апалячаная і абмаскаленая, — дый Беларусь у творчасьці і наважанасьці Скарыны, Цяпінскага, Сапегаў, Каліноўскага, Багушэвіча, — і Беларусь Купалы, Коласа, Луцкевічаў, Панчанкі, Быкава, Арсеньневай, — дый Беларусь у лятуценьнях, творах і малітвах Стэповіча-Сваяка, Станкевіча, Астрамовіча, Абрантовіча, Гадлеўскага, Гарошкі . . .

Усюды і заўсёды тая самая Б Е Л А Р У С Ь , хаця інакш яе называлі, хаця своеасаблівай мовай кажнага стагодзьдзя яе праслаўлялі.

К р ы в і я , Р у с ь , Л і т в а — ўсе гэтыя назовы ёсьць нашыя, бо яны належаць да нашай гісторыі і культуры.

Калі Беларусь цешылася вольным жыцьцём і калі давала свайму грамадзяніну — апрача водару лясоў і красы лугоў і вазёраў, магчымасьць праяўляць сваю творчасьць, тады ня было так важным, як яе называлі.

Калі аднак беларус, страціўшы дзяржаўнасьць, стаў забывацца пра сваю слаўную мінуўшчыну, тады назвы ягонай роднай краіны сталі забывацца і блытацца: беларус, перастаўшы звацца «крывічом», «рускім», «ліцьвіном», стаўся нясьведамым, «тутэйшым» і, як сьляпы і глуханямы, нават ня ведаў, хто ён ёсьць . . .

Таму патрэба было нейкай сілы-імпульсу, каб ізноў злучыць народ у вадно; сілы, якая паставіла-б яго ў рады сучасных нацыяў, — каб адчыніла нашаму народу вочы на мінулае і будучае, каб натхнула да новай волі быцьця і тварэньня! . .

*

Такім зваротным мамэнтам стаўся А К Т 25-га С А К А В І К А 1918 году, калі прадстаўнікамі ўсяго народу Б Е Л А Р У С Ь была абвешчана вольнай, незалежнай Д З Я Р Ж А В А Й !

Сталася гэта ў дзень вялікага хрысьціянскага сьвята, Дабравешчаньня. Якая прыгожая аналёгія між адным а другім сьвятам!

Анёл апавясьціў Дзеве з Назарэту, што станецца Маткаю Божага Сына, Мэсыяша — Збаўцы сьвету. Больш радаснай весткі сьвет ня мог чакаць.

А прадстаўнікі беларускага народу апавесьцілі ўсяму сьвету, што ад гэтае хвіліны ўся Беларусь абвяшчаецца вольнай, незалежнай, адказной за свой лёс Дзяржавай.

Дык вось скінена ярмо накінутае расейскім шавінізмам і дэспатызмам, Беларусь адгарадзілася ад амбітнай і ня менш прэтэнсіянальнай Польшчы і наша адроджаная Дзяржава ўваходзіла, як роўная з роўнымі, у сям'ю свабодных народаў.

Значыць, быў гэта вялікі, шчасьлівы і ўрачысты дзень!

Праўда, не хапіла нам, беларусам, фізычнай сілы абараніць Акт 25-га Сакавіка 1918 году, аднак ён натхняў і натхняе нас да далейшага змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі-Бацькаўшчыны.

*

Сяньня, пасьля 50-ці гадоў ад яго абвяшчэньня, мы ня толькі аб Акце Свабоды не забыліся, але, дзякуючы яму, мы нацыянальна жывём; мы пад бел-чырвона-белым сьцягам змагаемся і мы верым, што — Бог паможа — прыйдзе той запаветны час, калі Беларусь стане такой, якой яе ўяўлялі тварцы Акту 25-га Сакавіка!

Не забывайма, што сказаў адзін з найбольш актыўных удзельнікаў Усебеларускага Зьезду і змагар за ідэалы 25-га Сакавіка, Васіль Захарка. Вось ягоныя словы: «Наша свабода залежыць выключна ад працы самога беларускага народу. Дзеля гэтага ўсякія надзеі на суседзяў трэба кінуць раз на заўсёды, яны толькі аслабляюць энэргію барадзьбы з гвалтаўнікамі».

Хай жыве Беларускі Народ і наша будучая Незалежная Дзяржава!



*Апошнія словы Ноты Васіля Захаркі Народнаму Камісару Замежных Справаў Чычэрыну з дня 17-га ліпня 1920 году, у якой дамагаецца прызнаньня поўнасьцю Незалежнасьці Б.Н.Р.*

*а. Аляксандар*

# ВЯЛІКОДНЫЯ ДУМКІ

Вясна. Прырода будзіцца з зімовага сну. Усё пачынае ажываць. Зерне, кінутае ўвосень у сырую халодную зямлю, не памерла і сяньня пачынае даваць знакі новага жыцьця, каб хутка ўспыхнуць багацьцем красак і прынесьці ў сваім часе новае зерне, якое ў сваю чаргу дасьць пачатак новаму жыцьцю... Кожны год усё гэта здараецца і кожны год мы спатыкаем гэтае адраджэньне жыцьця з подзівам, як нешта новае, як цуд.

Міжволі ўспамінаюцца словы Хрыста: «Калі пшанічнае зерне, паўшы ў зямлю, не памрэ, то астанецца адно, а калі памрэ, то дасьць багаты плод» (Ян 12, 24).

Той, хто сказаў гэтыя словы, быў сам для нас зернем. Правёўшы тры дні ў зямлі, Ён уваскрос, каб даць пачатак новаму жыцьцю, не дачаснаму і пераходнаму, як звычайныя зярняты, але вечнаму, Божаму. Нараджэньне новага жыцьця мы якраз сьвяткуем у Вялікдзень, які нездарма завецца сьвятам усіх сьвятаў.

«Дзень зьмёртвыхустаньня: узрадуемся, людзі, бо сяньня ёсьць Пасха, Пасха Гасподняя. Сяньня Хрыстос Бог перавёў нас ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі да неба, пяючы песьню перамогі». Такімі радаснымі словамі Царква спатыкае гэтае вялікае сьвята.

Па жыдоўску Вялікдзень завецца Пасха, што значыць пераход. Гэта быў для жыдоў дзень вызваленьня, калі Майсей, перавёўшы іх пераможна праз Чырвонае мора, вызваліў іх з ягіпецкай няволі і павёў да абяцанай зямлі, да новага, вольнага жыцьця, якое абяцаў Бог свайму выбранаму народу.

У новую Пасху, Вялікдзень, ужо не чалавек Майсей, але сам Бог, Госпад Ісус Хрыстос, цераз сваю сьмерць і зьмёртвыхустаньне перавёў нас ад сьмерці граху да жыцьця вечнага, прыгатаванага для дзяцей Божых.

Да часу крыжовай сьмерці Хрыста людзі былі пад уладай грэху і сьмерці. Яны былі ў сумным паложаньні даўжнікоў, якія, ня будучы ў стане заплаціць свайго даўгу, павінны былі мучыцца ў няволі. Хрыстос, будучы сам без даўгу, заплаціў за нас доўг, робячы нас свабоднымі. Дзіўныя дарогі Божай любові, якая ўмее пагадзіць бязьмежнае міласэрдзе з вымогамі справядлівасьці!

Сяньня, сьвяткуючы Вялікдзень, памятайма, якой цаной мы купленыя. Будучы дзецьмі Божымі, не рабемся зноў нявольнікамі, бо «усякі, хто грашыць, ёсьць нявольнікам грэху» (Ян. 8, 34). Хай у гэты сьвяты дзень у сэрцы кожнага з нас адбудзецца Пасха — той пераход ад грэху да добрага жыцьця, да жыцьця з Богам. Грахі мінулых гадоў нашага жыцьця нам не павінны быць перашкодаю, бо міласердзе Божае ёсьць безгранічнае: «Госпад... доўга церпіць нас, ня хочa, каб нехта згінуў, але каб усе прышлі да пакаяньня» (2 Пятр. 3, 9). Хай таксама ніхто ня кажа, што гэта немагчыма, бо Хрыстос ёсьць заўсёды пры нас і дае помач тым, што яго шчыра просяць. «Немагчымае для людзей магчымае для Бога» (Лк. 18, 27).

Думка аб вечным жыцьці не павінна нас прымушаць забывацца аб жыцьці дачасным, зямным, якое, як дар Божы і прыгатаваньне да вечнасьці, мае для нас асаблівае значэньне. Калі мы глянем на сяньняшні сьвет, дык ён прадстаўляецца ў вельмі невясёлых красках. Закалоты, войны, голад не перастаюць мучыць людзей. Першы раз у гісторыі людзі маюць у сваім распараджэньні такую магутную зброю, што могуць зьнішчыць саміх сябе і ўсё жыцьцё на зямлі. Дык ня дзіва, што не адзін з бацькоў з трывогай думае аб будучыні сваіх дзяцей. Усюды множацца розныя рухі міру, пратэсты, дамаганьні — забараніць ужываньне пэўных відаў зброі. А што мы, хрысьціяне, на гэта? Мы былі-б дрэннымі хрысьціянамі, калі-б асталіся абыякавымі ў абліччы зла, якое пагражае нам і ўсім нашым бліжнім. Дзеля гэтага нашым абавязкам ёсьць ня толькі адносіцца з сымпатыяй, але патрымоўваць актыўна ўсякія годныя падтрымкі мерапрыемствы дзеля зьменьшаньня небясьпекі і цярпеньняў і дзеля супакою ў сьвеце. З другой стараны, гледзячы на ўсе гэтыя намаганьні, мы ня можам пазбавіцца пэўнага сумнага скептызму. Падтрымоўваючы справядлівыя дамаганьні забароны ужываньня пэўных відаў зброі, мы ведаем, што ніякія забароны не памогуць, покуль у сэрцах людзкіх будуць панаваць злосьць, нянавісьць, зайздрасьць і пажадлівасьць. Нам таксама сумна, што сяньня, калі так шмат гаворыцца аб міры, амаль нічога не ўспамінаецца аб Князю Міру, Госпадзе Нашым Ісусе Хрысьце, які адзін можа даць сапраўдны і трывалы мір.

Дзеля гэтага хай нашым першым укладам у справу сусьветнага супакою будзе «пасха»

ў нашых сэрцах, гэта значыць пераход да жыцьця ласкі і адвярненьня ад грэху, нянавісьці, злосьці, нячыстых пажаданьняў, словам ад усяго, што ёсьць сапраўднай прычынай закалоту ў сьвеце.

Мы ня можам аставацца абыякавымі да людзкога гора. Хрыстос ня быў абыякавым і, дзе мог, аблягчаў людзкія цярпеньні. Мы былі-б нягоднымі Ягонага імені, калі-б паступалі інакш. Аднак ніхто ня можа даць таго, чаго ня мае. Як мы можам рабіць дабро, калі сэрцы нашы поўныя злосьці? Як можам суцяшаць, будучы перапоўнены горыччу? Як можам любіць, калі мы дыхаем нянавісьцю?

«Багаслаўлёныя міратворцы, бо яны назавуцца сынамі Божымі» (Мт. 5, 9). Паколькі мір зямны зьяўляецца водблескам міру нябеснага, Божага, дык яго можа даць толькі Бог і тыя, якім ёсьць дана ад Бога, гэта значыць сыны Божыя. Але каб быць сынам Божым, трэба мець мір у сваім сэрцы.

Усё вышэйсказанае павінна быць прадметам для развагі для нас, беларусаў. Сяньня наша Бацькаўшчына знайходзіцца пад уладаю тых, якія жадаюць устанавіць на сьвеце хвальшывы мір. Мы ўсе жадаем свабоднай Беларусі. Але што мы разумеем пад гэтым? Ці мо хочам замяніць адну небеларускую бязбожную няволю другой, толькі беларускай? Ці з другой стараны мы жадаем, каб Беларусь была сапраўды свабоднай, свабоднай ад усяго дрэннага, свабоднай той свабодай, якую можа даць толькі Бог? Калі гэта ёсьць нашым жаданьнем, дык ужо сяньня пастараемся ўнесьці свой уклад дзеля шчасьлівейшай будучыні нашай бацькаўшчыны, стараючыся самі жыць з Богам.

«Калі . . . зерне, упаўшы ў зямлю . . . памрэ, то дасьць багаты плод». Хай у гэты сьвяты дзень кожны з нас памрэ для грэху, каб, уваскрэснуўшы з Хрыстом, прынесьці плод жыцьця вечнага!

*а. Ф. Журня*

# Малітва пра адзінства веры

*«Каб усе былі адно».* (Ян, 17,21).

Як у мінулых гадах, так і сёлета 18-25 студня, адбываліся ў цэлым сьвеце супольныя малітвы за адзінства хрысьціянскае веры. Гэтая практыка ўсё больш пашыраецца і абагачаецца. Раней хрысьціяне маліліся ў сваіх сьвятынях і са сваімі вернікамі. Але пасьля II-га Ватыканскага Сабору пачалі хрысьціяне лучыцца ў малітвах, не зважаючы на розніцу веры. І вось такім чынам зьбіраліся разам каталікі, праваслаўныя, пратэстанты і інш.

У гэтым годзе зьявілася ў многіх месцах яшчэ новая практыка: у сьвятынях гаварылі прамовы асобы духоўныя, а нават сьвецкія іншага вера-вызнаньня. Так у каталіцкай катэдры (Вестмінстэр) на запросіны кардынала Гінэна меў прамову Архібіскуп Рамзэй, які ёсьць галавою Англіканскае Царквы. У Глясгове ў англіканскай катэдры гаварыў каталіцкі Архібіскуп і так у іншых гарадах.

Наагул такая вымена прамоўцаў была прынята ўсімі вельмі прыхільна, за выняткам невялікіх групаў людзей, якія рабілі дэманстрацыі, а ў Лівэрпулі стварылі замяшаньне.

Некалькі гадоў таму назад трудна было сабе ўявіць такую магчымасьць, каб рознаверцы маліліся разам, а тымболыш, каб хто гаварыў казаньне ў чужой сьвятыні. Бяз сумніву гэта сьведчыць, што людзі шчыра імкнуцца да адзіства веры і шукаюць да гэтага дарогі.

Найбольшую ўвагу і цікавасьць узбудзіў Тыдзень Малітваў 18-25/I, які адбыўся ў каталіцкай катэдры Вэстмінстэр у Лёндане. — 21 студня ў нядзелю вечарам кіравалі малітвамі і выступалі з прамовамі сьвецкія людзі: гаварылі аб адзінстве веры і што значыць быць хрысьціянінам у нашых часах. Прамаўлялі разнаверцы — англікане, мэтадысты, баптысты, каталікі і інш. А прысутных было больш 5-ці тысяч і ўсе чуліся здаволены ў суспольнай малітве.

25-га студзеня спаткаліся ў катэдры кардынал Гінэн і Архібіскуп Рамзэй: гэта мае

вялікае значэньне для злучэньня Цэркваў. А братэрскі пацалунак між імі выклікаў буру воплескаў сярод звычайна спакойных англічан. І гэта было прынята тым болей міла, што праз доўгія вякі Каталіцкая Царква пераносіла жорсткі прасьлед у Англіі.

У сваей прамове пасьля малітваў Архібіскуп Рамзэй падзякаваў за сардэчнае прывітаньне і ўспомніў аб сваей сустрэчы ў Рыме ў 1966 з Папай Паўлам VI.

«Я тады — гаворыць ён — сказаў Папе: „Я прыбыў сюды зь вялікім жаданьнем у сэрцы, якое напэўна і Ты маеш у сваім, каб мы гэтым нашым спатканьнем памаглі зьдзейсьніцца малітве нашага Госпада, каб усе Яго вучні дайшлі да адзінства веры".

Далей Архібіскуп гаварыў:

«У гэтым духу і мы павінны сягоньня маліцца. Мы ведаем, што між намі існуюць вялікія розьніцы і не маем прэтэнсіі вырашыць пасьпяхова ўсе спорныя пытаньні. Ведаем, што перад намі вялікая дарога да адзінства. Але мы ўжо знайшліся ў новай сытуацыі, у якой нічога так не памагае, як вялікая Тайна (Сакрамант) Хрыста, на што так вялікую ўвагу зьвярнуў II Ватыканскі Сабор. Праз гэты Сакрамант можам ужо ўдзельнічаць у Хрыстовым братэрстве. Гэта ёсьць глыбокая і містычная вязь. Дзякуючы гэтай моцнай вязі мы маем магчымасьць цяпер разам з Ерархіяй — Уладай аднэй і другай Царквы — тут маліцца, аддаваць Богу хвалу і разам дзейнічаць не як ворагі, але як саюзьнікі ў службе Богу і чалавецтву.

Потым прамоўца глыбока ўвайшоў у тайну нашага злучэньня ў веры.

«Калі мы гаворым, што павінна быць адзінства ў веры і яе сьвятасьцях, гэта значыць, Тайнах (Сакрамантах), то гэтым мы прызнаём, што асноўнай і найважнейшай справай у гэтым нашым збліжэньні ёсьць тое, што мы ўсе павінны болей прыбліжыцца да Хрыста. Ён нас вітае, запрашае да Сябе. І гэта ёсьць сакрэт нашага адзінства ў веры, ці мы прыймем Яго прывітаньне? —

«Падумай, як Хрыстос вітае цябе ў Тайне Хросту, Канфірмацыі, у Найсьвяцейшым Сакраманце са сваею труднай да ўвераньня інтымнай, рэчаіснай прысутнасьцю! Падумай, як цябе вітае ў споведзі, калі абмывае цябе з тваіх грахоў, так як абмываў ногі апосталам у Вячэрніку! Падумай, як Ён цябе вітае і як ты Яго знаходзіш у сьвятым Пісьме. Гэта ёсьць Яго інтымная, пакорная блізкасьць.

«Паміма ўсіх нашых грахоў і нявернасьцяў Ён вітае нас ужо ў таварыстве Найсьвяцейшай Дзевы Марыі і сьвятых у небе, калі мы далучаем нашыя просьбы і хвалу да іхных».

Далей кажа прамоўца, што Хрыстос вітае нас таксама і ў цярпеньнях, бо хоча нашага ўдзелу ў ягоных цярпеньнях, а посьле ў ягонай хвале ў ускрашэньні памёршых.

«Вось, калі мы прыймем Хрыста ўва ўсім і ўпадобімся да Яго пакоры, мужнасьці, самаахвярнасьці, — тады да Яго прыблізімся найбольш, а праз гэта прыблізімся адзін да другога ў адзінстве веры. Злучэньне хрысьціянства ў аднэй веры ёсьць ня столькі вонкавым збліжэньнем у відавочных межах Царквы, колькі збліжэньнем да Хрыста.

«Да гэтага злучэньня вядуць нас супольныя натугі, каб Хрыстовыя законы — міласьці, справядлівасьці і супакою між народамі завалададі на ўсім сьвеце. Кажны акт адрачэньня ад самалюбства дзеля бліжняга, кажны ўчынак выкананы для памяншэньня цярпеньняў людзкасьці вядзе нас да злучэньня ў веры.

«На гэтых дарогах да адзіства веры вітайма адзін другога, як кажа апостал: „Дзеля гэтага прыймайце адзін другога, як і Хрыстос прыняў нас да хвалы Божай». (Рым. XV, 7).

Няхай-жа гэтыя глыбокія думкі аб злучэньні як найглыбей уваходзяць у нашае сэрца!

# Айцец Уладыслаў Чарняўскі ў Рыме

У сьнежні мінулага году зусім нечакана прыехаў зь Беларусі айцец Уладыслаў Чарняўскі, пробашч у Вішняве, Валожынскага раёну. Спаткала яго на станцыі беларускае духавенства, прабываючае ў Вечным горадзе, і пралат Гарба Монтальво з Папскага Сэкрэтарыяту Стану.

Айцец Ул. Чарняўскі праз цэлы час прабываньня ў Рыме жыў у генэральным Доме Айцоў Марыянаў.

Даведваемся, што ён вельмі пільна выкарыстаў свой час: наведаў старадаўны паганскі Рым цэзараў, катакомбы, велічныя базылікі і слаўныя сваім мастацтвам рымскія музэі. Удалося яму наведаць Асыж і Монтэ Кассіно, дзе нямала лягло беларусаў у часе апошняе вайны, калі поплеч з аліянтамі змагаліся супраць гітлероўскай Нямеччыны.



Дня 22 студня 1968 а. Уладыслаў быў на спэцыяльнай аўдыенцыі ў Папы Паўла VI, аб чым паведаміла ватыканская штодзённая газэта «Osservatore Romano», таксама і ватыканскае радыё.

Быў прыняты таксама кардыналамі — Саморэ, Чыконіяні, Бэнно Гут, Архібіскупам Казаролі і іншымі.

а. Чарняўскі пакінуў Рым 29 студня 1968, вязучы з сабой падаркі і хіба-ж найлепшыя ўспаміны.

а. Чарняўскі ёсьць першым беларускім сьвятаром, які меў добрую нагоду пакінуць сваю парахвію і прыехаць у Рым на запросіны Апостальскага Пасаду ў характары дарадчыка Сьв. Кангрэгацыі Абрадаў.

*

Падамо крыху вестак аб асобе а. Чарняўскага, якія нашаму карэспадэнту ўдалося здабыць.

Нарадзіўся ён 14 студня 1916 г. ў вёсцы Амбружын на Гарадзеншчыне. Хадзіў у беларускую настаўніцкую школу ў Барунах, а пасьля пераехаў у Друю і тут скончыў друйскую гімназію ў 1937. У 1938 г. уступіў у Закон Айцоў Марыянаў. Вышэйшыя студыі адбывае ў неспакойныя часы вайны ў Вільні і ў Літве.

24 верасьня высьвяціў яго на сьвятара Архібіскуп Мечыслаў Рэйніс. Ад 8-га сьнежня 1953 г. працуе ў душпастырстве на Беларусі ў м-ку Вішнева Валожынскага раёну.

*

Трэба дагадвацца, што прыезд і прабываньне айца Чарняўскага ў Рыме ёсьць спалучанае з аднаўленьнем Каталіцкай Герархіі на Беларусі.

Ч.

*Б. П-цкі*

# „Прыедзьце ў Парыж!“

Гэты загаловак шмат каго зьдзівіць, бо нібыта патрэба вялікай навукі, каб паехаць кудынебудь? А быў такі час, калі трэба было езьдзіць умеючы.

Калі-ж Нямеччына праіграла вайну пад націскам Амэрыкі і наагул Захаду і Ўсходу, дык настала свабода для былых нявольнікаў і палонных на паварот дамоў. Аднак некаторыя — замест вяртацца на Бацькаўшчыну — пачалі шукаць сабе іншае краіны, дзе была сапраўдная свабода, каб не трапіць пад гнёт новых чырвоных паноў.

Не забуду 28-га сакавіка 1945, калі амэрыканцы звольнілі мяне ў заходняй Нямеччыне і пераслалі ў горад Ахэн, памясьціўшы там у нямецкія казармы.

Мы там дзівіліся, што ўвесь горад быў цалкам у руінах, а толькі ваенныя аб'екты непарушаныя бомбамі. Відаць, саюзьнікі лічылі, што ім будуць патрэбныя.

Туды звозілі і французаў, і бэльгійцаў, галандцаў і інш., але тых усіх адразу забіралі і адвозілі ў іхныя краіны. А мяне вывезьлі ў Рэймс (Францыя) на працу ў вартаўнічай кампаніі, дзе за малую плату французскі ўрад загадваў пільнаваць розныя аб'екты — будынкі, вагоны ці матар'ялы на пляцох.

А жыцьцё ў вартаўнічых абозах-лягерах кіпела вясёласьцяй — аж нярэдка залішне, бо даходзіла да макабрычных сцэнаў. Людзі там сабраліся маладыя і добра аджыўленыя ў амэрыканскай кухні. Дружылі з амэрыканскімі жаўнерамі і давай на іхны лад . . . Нярэдка амэрыканца спатыкала бяда з прычыны французскай мамзэлькі, тады ён клікаў: «Памажы, польскі! . . » Але не заўсёды такі «поліш» здараўся пад рукою.

Дык і мне там ня было дрэнна і вяртацца на Бацькаўшчыну ня мог я здэцыдавацца, хоць працавала моцна савецкая прапаганда.

Між Парыжам і Вэрсалем за нямецкага панаваньня быў спэцыяльны лягер для абучэньня вартаўнікоў, а па вайне французы аддалі яго савецкім, якія ўладзілі там рэпатрыяцыйны лягер, адкуль ужо проста вывозілі на радзіму. Калі-ж забракавала ахвотнікаў на паварот у Савецкі Саюз, дык яны пачалі па вуліцах і барах вылоўліваць новых кандыдатаў, звозіць іх у свой лягер і самалётамі вывозіць на радзіму. А пасьля прыдумалі яшчэ новы спосаб і закінулі гусьцейшую сетку. Пусьцілі па лягерах кандыдатак да жаніцтва: хто папаўся на такую вудачку, той ужо сарвацца ня мог. Вось і я і мой сябра, румынскі афіцэр, спаткалі такіх кандыдатак. Характэрна, што такія аматаркі знали па некалька моваў.

Мая паненка называлася Ніна, а румынскага афіцэра — Татьяна. Абяцалі нам паказаць вэрсальскі палац і ўсе яго цуды. Ну, вось і той палац! Бачылі мы капліцу, прыгожыя салі і пакоі Напалеона, люстраныя салёны і шмат чаго іншага. Пасьля пахадзілі па алеях і накіраваліся ў рэстаран на абед.

Ішлі мы, як закаханыя пары, адна за другой у невялікім дыстансе. Аж раптам мне стала ўсё ясна! Мы былі прададзеныя савецкім агентам. — Са стоячай перад намі машыны выйшлі два здаровыя элеганцка адзетыя мужчыны і зьвярнуліся да майго сябра, які быў у пярэдняй пары: ягоная Татьяна пачала іх знаёміць з сабою, як сваіх прыяцеляў. А мне якраз асталося досыць часу ўцякаць, пакуль ня позна: мая ўлюблёная Ніна ўсё-ж трымала мяне моцна за руку, але я рвануў з усяе сілы і мае доўгія ногі якраз мне добра прыслужыліся. Толькі пасьпеў аглянуцца, як майго румуна ўцягвалі ў машыну. За мной не пагналіся, бо баяліся нарушыць супакой: каго лавілі, дык дзеілі толькі подступам, баючыся, каб француская паліцыя ня выкрыла іхняе нялюдзкое мэтоды. Афіцыяльна саветчыкі вывозілі толькі жадаючых.

Так яны апэравалі даволі доўгі час — аж нарэшце француская ўлада праканалася, што пад маркай «рэпатрыяцыі» робіцца брудная работа: акружылі лягер і зрэвідавалі. Знайшлі там шмат аружжа і вялікі запас амуніцыі; тады той лягер зьліквідавалі і аблава на людзей крыху супакоілася, бо злоўленых ня мелі куды звозіць.

Некалькі тыдняў пазьней ізноў тыя дзьве паненкі — шматмоўныя — Ніна і Татьяна — зьявіліся ў нас зь вялікім плачам па бедным румуне, якога савецкія агенты схапілі і напэўна ўжо вывезьлі ў Савецкі Саюз. Але мае таварышы далі ім належную адправу.

Дык, значыць, трэба было ўмець езьдзіць у Парыж!

*Я. Савіцкі*

# Навука і рэлігія

Бязбожная «навука» тлумачыць, што ўсё паўстала з матэрыі, а сама матэрыя (матар'ял) існуе ад вякоў.

Арганізаваная матэрыя (арганізаваны матар'ял) называецца натурай або *прыродай*.

І атэісты кажуць, што *рух* у матэрыі таксама вечны. А таксама арганізацыя — *законы* ў прыродзе — вечныя.

І бязбожная навука (значыць, вучоныя атэісты) прызнаюць гэтыя законы прыроды і вераць у іх, вывучаюць і тасуюцца да законаў прыроды і да той арганізацыі, якая ад вякоў існуе.

Аднак атэісты не даюць адказу, скуль паўстала матэрыя і скуль узяўся той рух; а тымбольш, скуль узяліся тыя законы матэрыі-прыроды?

На гэта адказвае толькі наша вера-*рэлігія*, што ўсё паўстала ад *БОГА!*

Значыць, наша вера выражаецца ў такіх кароткіх словах:

*«ВЕРУ ў БОГА-АЙЦА ЎСЕМАГУТНАГА, ТВАРЦА НЕБА і ЗЯМЛІ.*

А вера атіэстаў мусіць выражацца падобна — так:

*«ВЕРУ ў МАТКУ-ПРЫРОДУ, ЎСЕМАГУТНУЮ, што ВЫТВАРЫЛА НЕБА і ЗЯМЛЮ».*

*

Перадумаем і разважым гэтыя спорныя квэстыі:

Мы Госпаду Богу прыпісваем *розум* і *сілу*, *волю* і *магутнасьць*, бо сам здаровы розум сьведчыць, што такая складаная машына, як наша плянэта і сонечная сыстема дый цэлы сусьвет — не магло-ж гэта ўсё вытварыцца само сабой — бяз ніякага пляну, бяз ніякае думкі. А таксама далей існаваць і дзеіць не магло-б бяз розуму і волі і сілы! ... На гэта трэба Адвечнага Розуму Тварца і Ўсемагутнага Гаспадара.

Дык і атэісты павінны прыпісаць *матэрыі-прыродзе*, у якую вераць, тыя самыя сілы розуму і волі, якія мы прыпісваем Богу, каб растлумачыць існаваньне сьвету!

Або павінны сказаць: «Нічога мы аб гэтым ня ведаем і знаць ня хочам!»

Але яны гамоняць, што ўсё існавала *само сабой вечна і* арганізавалася вечна...

Ну, добра! Няхай-бы мы прызналі вечнасьць матэрыі, дык скуль у ёй узяўся вечны *рух*? — бяз рухавіка... І скуль бярэцца ў някывой матэрыі вечная арганізацыя і *законы* прыроды — без арганізатара і без законадаўцы?

Дык, значыць, — па духу атэізму і па духу бязбожнае навукі, — трэба будзе прызнаць, што матэрыя-прырода мае розум і сілу-магутнасьць і волю, каб усё плянаваць і выконваць разумна і ўсёмагутна... — Тады сама нямая і глухая прырода была-б *Богам*!!!

Аднак на гэта атэісты не згаджаюцца! — Тады трэба прызнаць — (паводле іхняе навукі) — ў прыродзе нейкі «самацёк» ці глухі і сьляпы аўтаматызм, які аднак дзеіць пляна́ва і разумна праз усю вечнасьць?.. — Але гэта ёсьць чысты *абсурд!*

Як ня можа, напрыклад, чалавек сам сябе нарадзіць, сам сябе абыймаць, цалаваць і насіць сябе на сваіх руках...

Ці ізноў-жа атэісты мусяць прызнаць чысты *выпадак*, што «ўсё неяк здарылася...» самацёкам, самадурам, самахоць і далей ідзець чыстым «самапасам»! Бо ўсё робіцца і праводзіцца бяз розуму, але разумна. Бяз ніякага пляну, але пляна́ва. І ўсё рухаецца, але без матору-рухавіка. — Адным словам, гаспадарка — без гаспадара, фабрыка — бяз інжынера, і сусьвет — без Валадара!..

Дый і тут атэісты адкідаюць чысты *выпадак*, але самі называюць свае нелягічныя сыстэмы навуковымі. І ад нас вымагаць, каб і мы прызнавалі ў імя — *«навукі»* — нярозум — розумам, бесплянавасьць — плянам і абсурд — навукай.

Яны кажуць, што сама матэрыя ёсьць крыніцай сьвядомасьці і розуму і што розум вытвараецца ў мазгох так як тая жыжка выплывае з носу і як аўта-воз выяжджае з гаражу. Значыць, чым большыя мазгі, тым павінен быць большы і розум, а тымчасам слон мае розуму столькі, колькі і малюсенькая мыш!

А калі розум вытвараецца з матэрыі, то прырода давала-б чалавеку тое, чаго сама ня мае, бо ня скрыпка і смык вытвараюць музыку, але дух артысты, а «з пустога і Салямон не налье!»

Але ўсё-ж ніякая бязбожная навука не патрапіць відзець без вачэй, ані чуць бяз вуха, хадзіць бяз ног і жыць бяз сэрца...

*

Як мы на пачатку бачылі, наша вера — *рэлігія* выражаецца ў гэтых словах — простых і лягічных: «*Веру ў Бога Айца Ўсемагутнага, Тварца неба і зямлі!*».

Калі-ж атэісты — замест Бога — ставяць Прыроду, дык трэба нам уважна прасьлядзіць, якая розьніца між намі і імі?

Мы ставім прычыну *разумную* і *жывую* — БОГА, калі яны даюць прычыну з натуры сваей мёртвую і, значыць, няжывую і абсалютна неразумную! Значыць, *сама прырода* не магла-бы сама сабой вытварыць і выкіраваць такі складны сусьвет — ад найменшых атомаў аж да найбольшых сонцаў, якіх існуе шмат мільёнаў. А трэба-ж ведаць, што і атомы яшчэ складаюцца з электронаў, протонаў, нэўтронаў... і ўсё гэта мае — (самая міні-міні часточка) — сваю асобную і вылучную дарогу і сілу!!!

Дык як-жа мёртвая прырода магла-б надаць усяму такі ідэальна прамудры плян руху і арганізацыю? дый яшчэ выпісаць на ўсе вякі спэцыяльныя законы?.. А тымбольш, як неразумная прырода — мёртвая і матар'яльная — магла-б вышукаваць сама з сябе сьведамасьць і пазнаньне і поўны розум, сама гэтага не маючы?

Наагул кажучы, навука мусіць апірацца на лёгічных доказах, бо начай становіцца звычайным вар'яцтвам. А тымчасам бязбожная навука, пераскаквае ад справаў матар'яльных, якія яна ведае, да высокай філязофіі і да справаў духовых, аб якіх нічога ня ведае і пярэчыць усяму, чаго непасьцігае.

*

Возьмем для прыкладу такое параўнаньне: адзін вельмі багаты чалавек ахвяраваў свайму прыяцелю чэк на мільён даляраў. Чэк быў выкананы і падпісаны паводле ўсіх урадовых формаў, толькі ў выпісаным мільёне на пачатку — замест адзінкі — стаяў нуль! Значыць, той капіталісты — замест 1,000,000 напісаў 0,000,000.

Разумеецца, што ў банку гэты чэк прызналі ані сапраўдным, ані вартасным: цана яму была — нуль! — Чаму? — Бо першая лічба папсавала ўвесь чэк, які праз гэта сам стаў нулём.

Вось-жа мы ў сваім «Веру́ю!» маем слова самае вартаснае — «БОГ»; а гэтае слова паказвае на істоту самую разумную і ўсёмагутную.

А ў атэізьме на першым месцы пастаўлена «ПРЫРОДА-МАТЭРЫЯ», якая не мае ані розуму, ані волі, ані сілы. Значыць, у атэізьме на першым месцы стаіць нуль! — а нуль — гэта ёсьць «нічога». Дык хоць яны гэты нуль узводзяць у вечнасьць, надаюць яму вартасьць-розум, усёроўна, бо зь нічога і будзе нічога!..

Дык ацаніце, Чытачы самі, што варта бязбожная навука ў справах духоўных, калі сілуецца адкінуць Бога і рэлігію?

# З царкоўнага жыцьця

*РЫМ-ВАТЫКАН: Дапаўняючы тое, што мы* пісалі аб спатканьні Паўла VI з Атэнагарам I-ым, заўважым наступнае:

26-27 і 28-га кастрычніка 1967 г. — гэта было ужо *трэйцяе* спатканьне Папы і Патрыярха: *1-ае* было 5, I, 1964 году, *II-ое* ў Канстантынопалі 25 і 26 ліпня, 1967 году.

У I-ым зьехаліся разам у Ерузаліме, у II-ім Папа візытаваў Патрыярха і у 3-ім Патрыярх аддаў візыту Папе ў Ватыкане.

Выглядае, што тут творацца ўзаемныя візыты ветлівасьці.

Аднак, калі разважыць справу з пункту гістарычнага і царкоўнага, дык гэтыя візыты трэба лічыць справай нязвычайна важнай: і гісторыя нам гаворыць, што апошні раз Патрыярх Ўсходу быў у Рыме у 7-ым стагодзьдзі, а Рымскі Папа быў на Усходзе ў 710 г. Значыць, такія візыты бывалі нават у лучнасьці нязвычайна рэдка.

А цяпер на працягу 4-ох гадоў ужо спаткаліся Рым з Канстантынопалям тры разы!

Праўда, яшчэ разам не маглі служыць Літургіі, хоць сьвет чакаў і гэтага. Яшчэ мусяць перш на сабраньні багасловаў (тэалёгаў) уладзіць узаемныя недаразуменьні, каб сапраўды стала «адно стада і адзін Пастыр», як гэтага жадаў Ісус Хрыстос. Цэрквы могуць быць розныя і набажэнства і мова царкоўная і службы могуць розьніцца, а гэта будзе знак большага багацьця адной Цэрквы, але ў дагматах трэба пагадзіцца так, як было да падзелу 1054 году.

Такой згоды жадаюць і пра яе моляцца абедзьве Цэрквы — Каталіцкая і Праваслаўная. I тымчасам могуць маліцца супольна і хадзіць у сьвятыні абодвух абрадаў, а нават — у важных мамэнтах — прыступаць да Таінстваў у цэрквах дый касьцёлах наўзаем.

Аб такіх пытаньнях гаварылі між сабою Папа і Патрыярх доўгі час — бяз сьведкаў — па француску.

А публічна Патрыярх казаў да Папы: «Мы прыбылі да Вашае Сьвятасьці як брат да брата» і падкрэсьліў што Рым «ёсьць першым у чэсьці і ў парадку ў хрысьціянскіх Царквах».

Пры гэтым Атэнагорас адбыў вялікую пілігрымку ў Рыме: адведаў найбольшыя сьвятыні — Найсьвяц. Дзевы Марыі, Сьв. Яна на Лятэране, Сьв. Паўла за сьценамі Рыму і асабліва Сьв. Пятра ў Ватыкане. Тут спускаўся ў падзямель-

ле, каб памаліцца пры гробе Яна XXIII; быў у Сыкстынскай капліцы, у бібліятэцы і ў музэях Ватыкану. Быў у Калізэі і ў катакомбах Сьв. Прысцыльлі і на гробе Сьв. Пятра пад базылікай.

У Рыме віталі Патрыярха вялізныя грамады народу, аказваючы яму сваю радасьць і прыймаючы ягонае багаславенства.

Дай, Божа, каб гэтая выдатная пілігрымка была прыемнаю імпрэзай ня толькі як успаміны, але каб пакінула трывалы знак братэрскай любові і сталася пачаткам поўнага злучэньня!

✳

Патр. Атэнагорас у радыё ў Францыі сказаў: «Спатканьне з Папай бяз сумніву было выдарэньнем на гістарычную меру важным. — Павал VI ёсьць вялікім прарокам, які шыкуе дарогу будучыні. Мы прыгатаваны разглядзіць усе праблемы, што паслужаць усім людзям добрай волі».

✳

ВАТЫКАН: Павал VI заклікае да міласэрдзя — памагаць уцекачом-арабам, якія ў апошняй вайне з Ізраэлям пакінулі сваё жыльё і дабытак, маемасьць і працу, а цяпер мучацца ў палатках на пустыні, дзе няма аніякай працы і надзеі на паправу лёсу. Ізраэль прыняў назад ледзь 14 тысяч ёрданскіх уцекачоў, але гэта малая частка, а рэшта іх — ёрданскіх і егіпецкіх — марнуецца і церпіць голад.

Папа выдаў на помач 50 тысяч $ і просіцьзаступаецца за няшчасных людзей, якім бракуе харчу, адзежы, лякарстваў і прытулку. Асабліва цяжкі лёс дзяцей, старых і хворых.

✳

ЗІМОВАЯ АЛІМПІЯДА: Папа пераслаў спэцыяльны ліст да кіравецтва Алімпіяды, які быў прачытаны на алімпійскай сьв. Літургіі. У ім так піша: «У мамэнце, калі пачынаецца Зімовая Алімпіяда, мы жадаем выказаць арганізатарам і удзельнікам нашую жывую зацікаўленасьць гэтым выдатным спартовым здарэньнем, а такжа нашую пашану для іх усіх, якім і перасылаем нашыя сардэчныя прывітаньні. Нямала натугі каштавала прыгатаваньне гэтых гульняў, якія бяз сумніву становяць паважны крок наперад у справе разьвіцьця і поступу чалавека. Ад самага пачатку існаваньня гэтых спартовых дасягненьняў Царква ўдзеляла ім сваей поўнай падтрымкі. Вашае спартовае спаборніцтва можа бяз сумніву прычыніцца да таго, каб навязываць брацкія адносіны між людзьмі розных клясаў, народаў і расаў».

✳

ШВАЙЦАРЫЯ: Паўстала МІЖНАРОДНАЕ ЭКУМЭНІЧНАЕ БРАЦТВА. Уваходзяць у яго прадстаўнікі краёў Эўропы, Злуч. Штатаў Амэрыкі і Канады, — каталікі, праваслаўныя, англіканцы, баптысты, кальвінцы, лютэране, мэтадысты, і пратэст. швэдзкія. Мэта: студыюють праблемы злучэньня, ладзяць супольныя канфэрэнцыі тэалёгаў-спэцыялістаў.

✳

НЯМЕЧЧЫНА: ДАХАЎ — адзін з найбольшых лягераў, у якіх гітлераўскі ўрад выгубіў масу народу — жыдоў, палякаў і інш. Між іншым падлічана, што праз гэты лягер прайшло 2.812 духоўных, зь якіх згінула там 1,106 сьвятароў, пераважна каталіцкіх — 95%.

✳

АФРЫКА: ТАНЗАНІЯ. Тут больш 2 мільёнаў каталікоў, 400 сьвятароў, 1,408 законніцаў белых і 1,100 — зак. чорных, 2.000 школаў рознага тыпу, 71 шпіталяў, 245 прытулкаў для старых, 11 лягераў для пракажоных.

✳

ІНДЫЯ: Тут адбыўся вялікі зьезд каталікоў розных абрадаў — лацінскага, малабарскага і маланкарскага. Мэта: імкнуцца да ўніфікацыі, каб утварыць супольны адзін абрад — «Гіндускі», у якім былі-б выражаны традыцыі і абычаі гэтага краю.

✳

АЎСТРЫЯ: На запрашэньне кардынала Кеніга прыбыў у Вену правасл. мітрапаліт Пантэлейман. Абгаварылі супрацу тэалёгаў катал. і праваслаўных. Кажны год будуць абменівацца выдатнымі прафэсарамі, каб чытаць лекцыі ў багаслоўскіх унівэрсытэтах. І будуць вышуківаць сродкі на стыпэндыі для здальнейшых студэнтаў.

✳

ІТАЛІЯ, БЭЛЬГІЯ, ФРАНЦЫЯ І ГАЛЯНДЫЯ уводзяць практыку, каб маладым людзям, якія не жадаюць адбываць ваеннай службы, даць магчымасьць замяняць гэты абавязак на службу — тэхнічную ці грамадзкую — ў маларазьвітых краёх. Праца іх мусіць быць бязплатная — толькі за ўтрыманьне — у працягу трох гадоў.

✳

СКАНДЫНАВІЯ — ДАНІЯ, ШВЭЦЫЯ, НАРВЭГІЯ і ФІНЛЯНДЫЯ: Каталіцкія біскупы пастанавілі даваць права кіраўнічкам кляштараў, каб маглі выдаваць сьв. Камунію (Прычасьце) тады, калі няма прысутнага сьвятара. — Такая практыка ўведзена ўжо ў краінах, дзе бракуе сьвятароў.

✳

БАЎГАРЫЯ: Рыльскі манастыр, які быў забраны камунай на музэй, улада аддае назад праваслаўнаму духавенству. Гэта найбольш прыгожы і ведамы манастыр, памятнік старавечны. Да яго вяртаецца 25 манахаў.

✳

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ: Заўважана, што лік студэнтаў у катал. духоўных сэмінарыях значна ўзрос, калі ў іншых краях зьменшыўся.

✳

ГАЛЯНДЫЯ: Кардынал Альфрынг і кіраўнікі пратэстанскага Рэфармаванага Сыноду дагаварыліся ўважаць хрост вернікаў — каталікоў і пратэстантаў за важны. Гэтую ўмову прыгатавала суспольна мешаная камісія.

✳

МОНАКО: Катал. Біскуп Монако быў прысутны на правасл. вячэрні (нешпары), якую адправіў у яго касьцеле катэдральным рэктар мясцовай правасл. царквы. Сьпяваў на зьмену хор грэцкі з Ніццы і з Канн.

✳

ЯПОНІЯ: У каталіцкай катэдры ў Токіё адпраўляў урачыстае набажэнства кардынал японец Татсуо-Доі падчас Экумэнічнага Тыдня за Злучэньне Хрысьціянаў. Апрача каталікоў было нямала прысутных буддыстаў і шынтаістаў.

✳

АФРЫКА-МОЗАМБІК: Каталіцкі Біскуп быў прысутны на набажэнстве ў мэчэце, калі маліліся за мір на сьвеце. Біскуп выступіў з прамовай і апэляваў аб малітвы за мір, паклікаючыся на мусульманскі Каран. Сваё казаньне закончыў малітваю ў арабскай мове.

✳

НЯМЕЧЧЫНА: Горад Кэльн. Кардынал з духавенствам пастанавілі наладзіць спэцыяльную апеку над людзьмі, параненымі ў самаходных катастрофах. Лекары шпіталяў атрымалі спіс сьвятароў, да якіх трэба зьвяртацца ці выклікаць да абслугі пры інцыдэнтах. А выпадкі штораз узрастаюць!

✳

АНГОЛА (Паўдз. Афрыка): Гэта вялізны край, якім яшчэ ўладае Партугалія і працягвае палітыку «калянізацыі» нават і ў царкоўных справах. Паводле інфармацыяў восем каталіцкіх місіянэраў, якія спрыялі нацыяналнай сьведамасьці і адраджэньню насельніцтва, партугальскі ўрад пастараўся вывезьці ў Партугалію, дзе памясьцілі іх у прымусовай ізаляцыі (у розных кляштарах). А гэта якраз былі самыя дзейныя і вучоныя сьвятары, якія працавалі ў духоўных сэмінарыях ці ў касьцельнай адміністрацыі сваей краіны, Анголы.

✳

У рэспубліцы САН САЛЬВАДОР законніцы-манахіні пастанавілі ў кожнай дыэцэзіі раз на месяц з сабою спатыкацца. І вось увялі ў практыку такія сходы-зьвезды з розных законаў, каб абгаварыць супольна касьцельныя справы і патрэбы, каб супольна парадзіцца і падтрымаць сябе наўзаем дый разам памаліцца. Аказалася, што гэта стала карысным для рэлігійнага жыцьця і аднаўленьня духу. Зьбіраюцца, ведама, толькі кіраўнікі і дэлегаткі ад кожнага манастыра.

✳

ФРАНЦЫЯ: 29 кастрычніка адбылася ў Рыме канонізацыя брата-манаха Бэнільда з закону Братоў Хрысьціянскае Школы. Гэты брат Бэнільд быў праз 21 год кіраўніком пачатковай школы ў Францыі, дзе адзначыўся высокімі цнотамі ў навуцы і выхаваньні дзяцей.

✳

ФІНЛЯНДЫЯ: Тутэйшая Праваслаўная Царква падала вестку, што будзе даваць магчымасьць каталікам карыстаць з праваслаўных храмаў для свайго набажэнства.

✳

ЮГАСЛАВІЯ: У апошнім часе прыбыла ў Рым з Югаславіі пабожная праваслаўная пілігрымка, каб адведаць гробы сьвятых апосталаў Пятра і Паула, а таксама і іншыя сьвятыні. Перад ад'ездам яны атрымалі пазваленьне і багаславенства свайго праваслаўнага патрыярха Германа. У пілігрымцы былі людзі сьвецкія і духоўныя, а між імі 10 сьвятароў, 2 манахі і 1 дыякан. — Ужо 700 гадоў ня было ў Рыме праваслаўных пілігрымак.

✳

САВЕЦКІ САЮЗ: Уканцы сьнежня 1967 вышла ў Маскве поўнае ілюстраванае выданьне БІБЛІІ. Выдавец: Праваслаўная Царква.

Мы аднак баімося, што гэтае выданьне робіцца толькі для прапаганды заграніцай, а ў Саюзе ня будзе даступна для вольнага гандлю, як гэта бывае з рэлігійнымі фільмамі і з іншымі рэлігійнымі выданьнямі: іх можна выпісаць і мець заграніцай, а ў Саюзе будуць даваць адказ: «Вычарпана!»

✳

НЯМЕЧЧЫНА: Узгоднены тэкст у нямецкай мове малітвы «ОЙЧА НАШ . . . » для каталікоў, пратэстантаў і стара-каталікоў у Нямеччыне, Аўстрыі, Швайцарыі. Пароблены некаторыя зьмены крытычнага тэксту, які быў апрацаваны і узгоднены паводле Біблії. А ў заканчэньні дададзена: «Як Тваё ёсьць Валадарства і сіла і слава на векі вякоў», як пераказала ўсёхрысьціянская традыцыя. — І супольная Камісія апрацавала малітаўнік для катал., правасл., пратэстантаў і стара-каталікоў.

✳

МАЛЬТА: Каталіцкая Царква ўступіла праваслаўным адзін касьцёл для іх набажэнстваў: гэта ў духу экумэнізму-паводле дырэктывы II-га Ватыканскага Сабору.

# З беларускага жыцьця

ДАКЛАД АБ ДР. ФРАНЦІШКУ СКАРЫНЕ У РЫМЕ.

Дня 17 сакавіка 1968 г. ў нядзелю ў Рыме ў залі Папскага Інстытуту Ўсходніх Студыяў адбыўся даклад аб др. Францішку Скарыне з нагоды 450-годзьдзя перакладу на беларускую мову Бібліі і выхаду ў сьвет першай беларускай кніжкі.

Даклад зрабіў Яго Дастойнасьць Біскуп Ч. Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў, на запросіны Рэктара ўспомненага Інстытуту.

Дакладчык у трох частках свайго дакладу абгаварыў: бібліяграфію аб нашым вучоным пачынаючы ад І. Бакмайстэра аж да сучаснага аўтара Сымона Брагі ўлучна; наступна затрымаўся шырэй над жыцьцём і творчай дзейнасьцю Доктара Ф. Скарыны; ў апошнім разьдзеле свайго дакладу разгледзіў уплыў Вялікага Палачаніна на беларускую культуру і наагул на культуру Славян.

Дакладам зацікавілася паважная колькасьць вучоных, што стала прабываюць у Рыме. Былі такжа прысутнымі Іх Эмінэнцыі Кардыналы Е. Тіссэран і Я. Сліпый, архімадрыт Айцоў Васіліянаў Вэлыкій, а. Баліч, пралаты Нагалка, Татарыновіч, прафэсары Ўсходняга Папскага Інстытуту, а. др. Вайшнора, а. др. Япундзіч і інш. Ад беларусаў апрача ўспомненага прал. П. Татарыновіча былі а. К. Маскалік і а. протоерэй П. Раіна, юрысдыкцыі Маскоўскага Патрыярхату, якія цяпер знаходзіцца на студыях у Рыме.

Пасьля дакладу Рэктар Інстытуту запрасіў гасьцей на скромны кілішак віна.

ВЫСТАЎКА СКАРЫНЫ Ў МАНЧАСТАР

Выстаўка Ф. Скарыны, зарганізованая Лёнданскім Беларускім Музэем, цяпер знайходзіцца ў Беларускім Клюбе у Манчастар. У нядзелю 3-га сакавіка а. Архімандрыт Л. Гарошка меў там даклад аб жыцьці і дзейнасьці беларускага першадрукара.

НОВАЯ ВЫСТАЎКА Ў БЕЛАРУСКІМ МУЗЭІ.

У нядзелю 10-га сакавіка ў Беларускім Музэі ў Лёндане была адчыненая выстаўка прысьвячаная 50-тым угодкам обвешчаньня незалежнасьці БНР. Выстаўка ахоплівае гады 1918—1921 гэта значыць пэрыяд часу ад прагалошаньня незалежнасьці Беларусі аж да яе падзелу польскімі і бальшавіцкімі захопнікамі. Цэлы рад добра выкананых мапаў ілюструюць паўстаньне беларускіх палітычных і вайсковых арганізацыяў пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., падарожжы сябраў ураду БНР, а таксама тэрыторыі Беларусі над якімі Рада і Урад БНР мелі эфэктыўную уладу ў розных адрэзках часу аж да канца 1920 г.

З кнігаў выданых Урадам БНР або ягонымі сябрамі на выстаўцы ёсьць «Беларусь» А. Цьвікевіча (Бэрлін 1919), а таксама «Адраджэньне Беларусі і Польшча» гэтага самага аўтара; «Беларусы і Палякі» К. Езавітава (выдыньне Міністэрства Беларускіх спраў у Коўні, 1919), «Беларускае пытаньне да часу Вэрсальскай Канфэрэнцыі» (Коўна 1919) і «Беларускі Рух» (Коўна 1920) Я. Варонкі, «Міністэрства Беларускіх Спраў» Засецкага (Коўна 1919), а таксама французкае выданьне кніжкі праф. М. Доўнар-Запольскага «Асновы беларускай дзяржаўнасьці» (Горадня 1919), якая была раздаваная удзельнікам. Вэрсальскай Мірнай Канфэрэнцыі, і інш. Есьць таксама арыгіналы і фатакопіі розных часапісаў, сярод іх «Пагоня», «На чужыне», «Сялянская Доля» і прапольская газэта на расейскай мове «Утро Белоруссии» з правакатарскай абвесткай аб прыйманьні дабраахвотнікаў у «беларускія» вайсковыя аддзелы. З цікавых дакумэнтаў на выстаўцы можна пабачыць розныя мэмарыялы Рады БНР у Лігу Нацыяў, а таксама ўласнаручную копію пратэсту заступніка старшыні Рады БНР В. Захаркі савецкаму Камісару замежных спраў Чычэрыну з дня 17-га ліпеня 1920 г. супраць захопу бальшавікамі Беларусі.

Выстаўка будзе адчыненая да 31-га траўня. Беларускі Музэй знайходзіцца ў памешканьні Школы сьв. Кірыла.

ВЕЧАР ПАЭЗІІ ЗЬМІТРАКА БЯДУЛІ.

У суботу 10-га лютага ў памешканьні Школы сьв. Кірыла ў Лёндане адбыўся вечар паэзіі Зьмітрака Бядулі ў ангельскім тлумачэньні сп.-шні Веры Рыч. Вечар быў ладжаны супольнымі сіламі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі і ангельскага часопісу паэзіі «Маніфольд». Праграма складалася з дваццаці вершаў Бядулі. Чыталі Розамунд Грынвуд (ангельская паэтка і артыстка ангельскага тэатру і тэлевізіі), Д'яна Ольсэн (артыстка радыя і тэлевізіі), Рыта Спэр (ведамая ангельская паэтка) і Элізабэт Анн Гарвэй (пісьменьніца і супрацоўніца часапісу «Маніфольд»). Вучні Школы сьв. Кірыла Марк Саўка і Віктар Тур прачыталі некалькі вершаў Бядулі па беларуску. Айцец А. Надсон коратка



*Курс Беларусаведы ў Лёндане. Лекцыя праф. Р. Г. Дэ Брэй 26-га студзеня 1968 г.*



*Вечар паэзіі Зьмітрака Бядулі. Айцец А. Надсон чытае даклад аб жыцьці паэта. Пры стале сядзяць (злева направа): Д'яна Ольсэн, Робэрт Армстронг, Рыта Спэр, Вера Рыч, Элізабэт Анн Гарвэй і Розамунд Грынвуд.*



*Вечар паэзіі Зьмітрака Бядулі. У першым радзе сядзяць (злева направа): Рабін Л. Н. Баум, Я. Д. Уладыка Часлаў Сіповіч, а. Архім. Лей Гарошка, а. Я. Бабік.*

расказаў аб жыцьці паэта, а сп.шня Рыч, якая кіравала вечарам, зрабіла крытычны агляд ягонай паэтычнай творчасьці.

Сярод вялікай колькасьці беларускіх і чужых гасьцей былі Уладыка Часлаў Сіповіч, які у той час прыехаў з Рыму, Архімадрыт Леў Гарошка, Рэктар Славацкай Місіі ў Англііі а. Я. Бабік, рабін сынагогі ў Фінчлей Л. Н. Баум, віцэ-старшыня Ангельскага Паэтычнага Таварыства Робэрт Армстронг, кіраўнік украінскага музэю ў Лёндане праф. Шаян і шмат іншых.

На заканчэньне быў вельмі смачна падрыхтованы пачастунак, за што належыцца асаблівая падзяка гаспадыні Школы сп.ні А. Міхалюк і ейнай маладой помочніцы сп.шні Соні Лошка.

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

У лютым г.г. закончыўся ў Лёндане другі курс беларусаведы ладжаны Ангельска-Беларускім Таварыствам. Лекцыі ў ангельскай мове адбываліся ў памешканьні Каралеўскай Шкоцкай Карпарацыі. Выкладчыкамі былі прафэсар Лёнданскага Унівэрсытэту Р. Г. дэ Брэй («Граматычныя зьмены ў сучаснай баларускай мове»), выкладчык Лёнданскага Унівэрсытэту сп. А. МакМільлін («Развіцьцё беларускай літаратурнай мовы ў 19-тым стаг.»), сп. Г. Пікарда («Арганізацыя і адміністрацыя судоў у Вялікім Княстве Літоўскім» і «Беларускія студэнты на Захадзе ў 15—17 стаг.») і а. А. Надсон («Спробы адраджэньня царкоўнаславянскай мовы на Беларусі ў пачатку 17-га стаг.»).

Курс вызваў жывое зацікаўленьне сярод беларусаў і прадстаўнікоў ангельскага акадэмічнага сьвету, якіх гэтым разам было больш чым у мінулым годзе.

### ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў АНГЕЛЬСКА-БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ

Заступнік старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства сп. Дж. Джоліф і яго жонка наладзілі ў чацьвер 17-га студзеня прыняцьце з нагоды другога курсу Беларусаведы. Сярод прысутных былі ганаровы прэзыдэнт Ангельска-Беларускага Таварыства Лёрд Гарлех, старшыня сп. А. Гэрбэрт, сп. Морыс Макмільлян з жонкаю, старшыня ЗБВБ сп. П. Навара з жонкаю і іншыя.

## *З лістоў у рэдакцыю*

АЎСТРАЛІЯ-МЭЛЬБУРН: 16. II. 1968. «Божым Шляхам» за лістапад-сьнежань прыйшоў 15 лютага. Фатаграфіі былі добрай ілюстрацыяй апошніх суадносінаў паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі. І якраз учора купілі мы ў горадзе Біблію, выдадзеную нядаўна па ангельску. Напісана ясным зразумелым ангельскім языком. Біблія каштавала толькі 50 цэнтаў, што таксама важнае, бо кніга даступная ўсім.

Просім прыслаць кніжкі вашага выдавецтва: а. Л. Гарошкі — «Душа», «Паходжаньне Чалавека», «Сьв. Еўфрасінія Полацкая» і Анат. Жмені — «Кветкі і Церні Жыцьця». Згары дзякую! Грошы перашлю пры найбліжэйшай магчымасьці.

А тут — поўнае лета. Вось кот выцягнуўся на падлозе і сьпіць: пэўна так найхаладней. У гародзе вінаград амаль дасьпелы, але выядаюць птушкі, дык дзякуючы ім, мусіць няшмат яго і дасьпее. Пад дрэвамі шмат яблыкаў і грушак: перадусім ідуць на кампоты, бо так есьці ня хочацца. Наагул тут фруктаў вельмі многа, хопіць на колькі месяцаў дый трэба дзяліцца із знаёмымі.

І ў нас, на Бацькаўшчыне, фрукты былі ў сэзоне вельмі танныя, аднак шмат іх марнавалася, бо цукар быў надта дарагі. У Польшчы работнік мусіў працаваць цэлы дзень на адзін кілёграм цукру. А цяпер тут (у Аўстраліі) 5-8 кілягр. за гадзіну працы. Ня дзіва, што цукар і ўсё іншае тут проста ня лічыцца!

І таму таксама ня дзіва, што дзеці так растуць і пераганяюць бацькоў. Няхай, на здароўе растуць, абы і розум пры гэтым рос! Аднак розум ня хоча трымацца разам з целам: магчыма дарасьце тады, як цела затрымаецца ў узросьце. На адно і другое разам натура ня хоча дазволіць — рытмічна раскладае на пэрыяды.

Дрэвы ў садзе напоўзялёныя — паліваем — дазволена, але трава зусім сухая і амаль яе няма. Шкада! так прыгожа калісь выглядала . . . У гэтым годзе ў нас, у Вікторыі, засуш: у працягу 10-ці месяцаў прайшло колькі дажджоў. Фармары і гароднікі вельмі наракаюць і цэны на іхныя прадукты растуць. І цікава, што ў гэтым самым часе ў іншых частках Аўстраліі былі паводкі і вялікія шкоды і страты.

Перасылаем усім знаёмым найшчырэйшыя пажаданьні — ўсяго найлепшага, асабліва здароўя!
*М. Н.*

*

АЎСТРАЛІА: 27. 2. 1968.

Дарагі Ойча Рэдактар!

Учора атрымаў ліст з Бацькаўшчыны ад родных: ён даволі характэрны і напісаны кемка. Яго трэба чытаць, як кажуць, «паміж радкоў». Спадзяюся, што выкарыстаеце для суайчыннікаў. Таму, што пісака-малапісьменны, я яго адбіў на машынцы, так як напісаны, а свае зацемкі буду даваць у дужках, бо мне там усё ведама, а чытачом будзе ясьней.

... Прывет із Дэлятыч. Шлю табе гарачы прывет ад усей сям'і. Доўга ня пісаў, але ўрэшце рашыў апісаць нашае цяперашняе жыццё, дый нас надта цікавіць тваё далёкае жыццё. Адбіўся ты і ад сваей вёскі і ад беларускага народу. Я ведаю, што ты спачуваеш сваей нацыі, але акружаны чужынцамі: хоць яны і культурныя людзі, аднак яны табе ні па смаку. Як, напрыклад, зьвяра зловяць у пустыні, дык хоць даюць яму добрае харчаваньне і памяшканьне, а ўсё-ж ён рвецца на свабоду. Так і мы пасьля вайны: тады ўсяго нехапала і думалі, калі-ж мы дачакаемся свабоднага жыцьця? Пражылі аднак тых мудрых кіраўнікоў, якіх нам вельмі хвалілі. Цяпер ужо не хваляць гэтых, але мы праканаліся, што ўсё-ж ня дурні там сядзяць ... (Але дурні на іх робяць ... — Мая зацемка).

... Мой сын Анатоль вучыцца на агранома на трэйцім курсе; на лета езьдзіць кудынебудзь у калгас ці саўхоз на практыку. Хоць ім даюць па 19 рублёў у месяц, але мы памагаем адзежай і прадуктамі. Аднак у нашых калгасах маладымі кадры не папаўняюцца, — усё яшчэ тут едуць на старых і тасуюць больш тэхнікі.

... У нас цяпер у чэсьць савецкай улады болей старых пойдзе на пэнсію: аклад пэнсіі ад 12-ці да 20-ці рублёў у месяц, зважаючы на тое, якую перш меў работу. А за 2 гады і я дачакаюся пэнсіі. Але хоць пэнсію дастаюць, аднак і іх да работы заклікаюць! асабліва падчас уборкі.

... Так што, браток. нам цяпер дагнаць Амэрыку ня так і цяжка: пару крокаў і ... там! (Цікава, каб дагналі Амэрыку, ці шмат вярнулася-б назад? ... Мая зац.). Цяпер мы навучыліся жыць культурна — гэта ня тое, што было за Польшчы. Наварыць бывала мама саган бульбы ў лушпінах, высыпе на стол, паложыць бохан хлеба — вялізны як рэшата! паставіць місу капусты — такой тлустай, што аж пара няможа прабіцца! — еж, хоць расьпіражыся, што пад канец яды і рабілася ...

... Цяпер, браток, мы жывём культурна: двойчы ўдзень — чай! Ці-ж у часох палякаў калі мы бачылі чай? Расказваеш дзецям, дык аж галовамі круцяць — ня верацЬ! Думаю, што і ты завідуеш нашаму жыцьцю, бо ў нас усяго досыць. — На мёд запатрабаваньне вялікае, але-ж пчолам няма дзе зьбіраць, а дактары прыпісваюць рацэпты на мёд, які на рынку даходзіць да 4 рублёў за кілё, а цукар — 80 капеяк.

... На маей калгаснай пасецы год быў нябікавы на кветкі і нэктар, бо грэчкі цяпер мы ня сеем: у пчолаў ня было настрою да раеньня, дык ня прышлося іх павялічыць і ледзь сабралі сабе на зіму. — Я зарабляю за пчолаў 12 рублёў і за сад 30 р. (ён — пчаляр і садоўнік ... Мая зац.), а жонка калі вырабіць 15 да 30-ці р. Так нам хапае на жыцьцё, а яшчэ можа астанецца на чорную гадзіну?

... Цяпер у нас перайшлі на грашовую аплату ў калгасах і затое калгаснікі, як месяц, дык і п'янка, нават часта бываюць няшчасныя выпадкі — аж да сьмерці!

... І яшчэ забыўся табе сказаць, што ў нас цяпер па хатах блішчыць «сонейка Ільіча»: гэта ня то, што даўней курэла газоўка і табе самому прыходзілася вучыцца пры «воўчым вочку». І карасіны нават у магазынах няма. Кажуць: «Вам ня патрэба!» А як аляктор перагарыць, дык лямпачку трэба чакаць месяц, а то і больш, пакуль паступяць у магазын. А ты ведаеш, які наш беларускі народ дасьціпны! мы тады палім лучыначку, а ўсёроўна ў папацёмку не сядзім! — Спачатку нам было страшнавата, як мы прывыкнем да цяперашняй культуры, а цяпер здаецца — так і трэба. — Праходзіш міма магазыну, паглядзіш у выстаўное вакно: там усяго шмат, але — «смачны жабе гарэх ...» паглядзіш і пройдзеш далей, міма.

Твая братава асталася адна жыць у хаце: здаецца і шмат было дзяцей, а дажываць аднэй трэба. Сына адправіла ў войска: на провады зыйшлося шмат народу, бо цяпер такая мода, як бяруць у войска, дык зыходзіцца шмат людзей як на вясельле. Але з арміі ня вяртаюцца дамоў, у калгас, а там шукаюць сабе працы і жэняцца. Так што людзей у вёсках ня прыбывае — адны толькі бацькі астаюцца дажываць веку.

Вось, браток, здаецца верна апісаў табе нашае жыцьцё і выбачай на болей! Пытаюцца калегі, ці дастаю ад цябе лісты, а мой адказ такі: «Пішу яму, а ад яго не дастаю ... »

Твой брат Хвядос.

Прыслаў у Рэдакцыю

*Т. Канстантыновіч*

ГАЛЬШАНЫ, АШМЯНСКІ РАЁН, 8. 3. 1968.

Паважаны Айцец Рэдактар!

Аб вашых зязюльчыных Гальшанах можна напісаць вось што: Двойчы Гальшаны гарэлі пры Польшчы. Дзе даўней былі жыдоўскія крамы, там стаяць муры і магазынчыкі. Саветы дабудавалі крыху дамоў, кіно і дом культуры і перад двума гадамі вялізную трох-павярховую школу, можна сказаць, красавіцу! I трэба адзначыць, што многа наўкол такіх школ набудавалі — меншых і большых, разьлічаных на 8 і 10 клясаў. Так у Багданаве, Крэве і інш. Людзі здагадваюцца, што гэтыя школы могуць стаць бальніцамі на выпадак чаго ... Бо там маюць і вялікія спартыўныя салі і кухні, лазьні, цэнтральнае аграваньне і сваю электрыку.

На дагляд і матар'яльную апеку над моладзьдзю таксама нельга наракаць. Адзяюцца добра, шмат каму памагаюць, лечуць, пасылаюць хворых у лягеры, а там вучаць і лечаць. Але горш з узгадоваю і духоваю апекаю: адцягваюць ад Бога і даюць слабое маральнае ўзгадаваньне характару і ветлівасьці.

Касьцёл у Гальшанах апушчаны, вокны павыбіваныя, палатаны, а ў сярэдзіне панішчана ўсё. У кляштары ля касьцёла жывуць бяздомнікі.

Падобная нядоля касьцёлаў у Ашмяне (складалі лён). У Крэве зь дзеравяннага зрабілі бальніцу, у Забрэзі парухалі. У Крэве ксёндз, выехаўшы ў Польшчу, памёр. У Іўі і многіх другіх мясцох касьцёлы стаяць пустыя, або парабілі склады, заводы (ў Маладэчне, Валожыне і інш.).

Нядаўна памерлі ксяндзы ў Солах (Матуліс), у Маладэчне (Лазоўскі), у Іўі (Кафарскі) і шмат другіх ... — Нейкі «паляц Божы» і на духоўнікаў і на людзей! Многія папакідалі людзей і выехалі ў Польшчу. Народ духова запушчаны ...

*Н. С-кі*

# Для цікавасьці і навукі

(Увагі для развагі)

ТУРЫСТЫ: У 1967 годзе Тры мільёны турыстаў наведалі Рым і Ватыкан: аглядалі базыліку сьв. Пятра, ватыканскія музэі і інш.

ГРЭНЛЯНДЫЯ: Площа 2 мільёны 176 тысяч кв. кілямэтраў. Калісьці была цяплейшая і названая «Зялёнай Зямлёй», а цяпер блізу круглы год пад сьнегам і лёдам. Належыць да Даніі. Там найбольшая каталіцкая парахвія на сьвеце — сваім прасторам, не насельніцтвам, якое складаецца пераважна з мешанцаў эскімосаў з эўрапейцамі, лікам да 40 тысяч.

«АЙЦЕЦ ПІГМЭЯЎ»: так называлі а. Паўла Шэбэста з закону Вэрбістаў, бо ён найбольш палюбіў у сваіх навуковых досьледах уласна пігмэяў, якія месьцяцца ў бассэйне ракі Конго: гэта самы дробны народ з усяго чалавецтва. — Нядаўна а. Шэбэста памёр у Вене. Ён займаўся, як вучоны этналёг, досьледам занядбаных народаў у Малаях, на Філіпінах і ў Конго, асабліва палюбіў пігмэяў дый яны таксама яго палюбілі і называлі сваім «Айцом-Бава». Шэбэста належыў да навуковых таварыстваў, а ў старшых гадах быў прафэсарам этналёгіі ў Вене, у школе Заграмічнага Гандлю.

СЫНАЙ: Гэта паўвостраў на Чырвоным моры, між Суэзкім і Пэрсідзкім залівам. На схіле гары Сынай ёсьць старадаўны манастыр, які абходзіў юбілей 1400 год існаваньня, пабудаваны ў тым месцы, дзе — паводле традыцыі — Бог прагаварыў да Майсея ў гаручым кусьце. У 640 годзе прарок арабскі Магамэт наведаў гэты манастыр і пакінуў там грамату-гварацыю бясьпекі. Грамата — гэта найстарэйшы дакумант мусульманаў — захаваны ў тым манастыры.

КАНГРЭС МІЖНАРОДНЫХ СТУДЫЯЎ у Францыі для апекі над псыхічна хворымі: сабралася каля 1,500 спэцыялістаў з 53 краёў сьвету. На пачатку працы Кангрэсу прачыталі ліст ад Папы Паўла VI-га, які піша: «З усяго сэрца жычым, каб сусьветнае спатканьне спэцыялістаў у гэтай галіне памагло стварыць на цэлым сьвеце сувязь салідарнасьці ў адносінах да псыхічна хворых і іх сем'яў». — А лік усіх псыхічна хворых на сьвеце даходзіць да 15-ці мільёнаў!

ШЛЯХЭЦКАЯ ГВАРДЫЯ і ТАЙНЫЯ ШАМБЭЛЯНЫ ў Ватыкане ў хуткім часе маюць быць скасаваныя. Наагул Павал VI спрашчае ватыканскае жыцьцё, а таксама ўсялякія ганоры і тытулы. А Гвардыя існавала ад 1801 году для аховы папскае асобы, хоць у апошнім часе яны толькі ўчасьнічалі ў парадных шэсьцях і набажэнствах. Апраналіся яны вельмі прыгожа і шыкоўна і рымляне такія парады надта любілі ...

БІБЛІЯ: Над Бібліяй працуюць розныя спэцыялісты і арганізацыі, каб устабілізаваць аўтэнтычны тэкст з паміж разнаякіх варыянтаў: уносяцца вельмі асьцярожна сьцьверджаныя папраўкі.

Арганізацыі стараюцца перакладаць і пашыраць Сьвятое Пісьмо, якое ўжо пераложана на 400 моваў і ў адным толькі 1967 годзе распаўсюджана ў Афрыцы каля 4 мільёнаў 500 тысяч эгз. Старога Запавету.

ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ АТЭІЗМУ: Каму што цікава, а айцы Салезіяны ў Рыме пачалі выдаваць такую працу: вышаў I том, які ўжо пералажылі на францускую, ангельскую і нямецкую мову. Яшчэ маюць выйсьці 2 томы.

Атэісты з розных краёў сьвету вельмі зацікаўлены гэтай працай, у якой аўтары ня зьбіваюць атэізму, ані высьмейваюць, ні паніжаюць яго, але стараюцца пазнаць сваіх праціўнікаў і выясьніць спорныя пытаньні. У I томе разглядаюцца пытаньні з соцыялёгіі, псыхалёгіі, фізыкі, біялёгіі, гісторыі рэлігіі, літаратуры, фільму, пэдагогікі

## *З беларускае прэсы*

БЕЛАРУС: Год XVIII, № 127, Лістапад 1967, Нью Ёрк—Торонто.

БЕЛАРУС: Год XVIII, № 128, Сьнежань 1967, Нью Ёрк—Торонто.

БЕЛАРУС: Год XIX, № 129, Студзень 1968, Нью Ёрк—Торонто.

ЗЬНІЧ: Год XIX, № 94, Жнівень-Верасень, Рым, 1967.

СЯЎБІТ: Год XI, № 61, Студзень-Люты, Нью Ёрк 1968.

ГОЛАС ЦАРКВЫ: Год XII, № 26, КАЛЯДЫ, 1967, Нью Ёрк—Бруклін.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 1 (96), год выданьня VI, 15 студзеня 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 2 (97), год выданьня VI, 31 студзеня 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 3 (98), год выданьня VI, 15 лютага 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 4 (99), год выданьня VI, 29 лютага 1968, Нью Ёрк.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС, № 156, Студзень 1968, Торонто, Онтарыё, Канада.

# БАЙКІ

## БЛЫХА

*Блыха царэвіча кусала:*
*Танцавала*
*І кроў ссала...*

*А ён мучыўся, круціўся*
*І ня спаў, ня еў,*
*Ня мыўся, —*
*Ледзь ня млеў*
*І з сілы зьбіўся!*

*А злавіць ніяк ня мог:*
*Аж хварэў*
*І аж залёг!*

*Супакоіў свае нэрвы*
*І злавіў-жа тую сьцерву!*

*Яна кажа: — Я-ж малая,*
*Маладая, —*
*Твая крыўда — фі! — пустая. —*
*Колькі-ж я крыві піла?*

*Ёй царэвіч: — Ты піла,*
*Колькі магла, —*
*Дык на сьмерць ты, мая міла,*
*Сабе добра заслужыла! —*

## АСА ў ПЧОЛАЎ

*Аса, як злодзей, трапіла ў вулей*
*І там давай барджэй*
*Па рамках поўзаць, аб'ядацца*
*І ў мёдзе ногі мыць, купацца!*

*Хапала пчолак маладых*
*І тут-жа грызла іх!*

*Тварыла скрозь забойствы, збыткі,*
*А пчолы беглі ад бандыткі.*
*У злосьці страшнай на астатку*
*Злавіць хацела матку!*

*А гэта-ж згуба ўсей сям'і*
*І роспач у вульлі... —*

*Нарэшце пчолы пашапталі,*
*Як дружна на асу напалі, —*
*Зладзейку мёдам абляпілі —*
*Салодку сьмерць ёй прычынілі!*

*

*Унукам бабка гаманіла,*
*Што «грамада — вяліка сіла!»*

*

*І ў людзей найгорша мука*
*Называецца д а к у к а ;*
*Яшчэ горш, калі — чужая*
*І... кусае.*

## КАТОК — МАМІН СЫНОК

*Жыла ў гасподзе котка —*
*Абармотка,*
*А быў у коткі сын —*
*Пястун-адзін.*

*Дык так яго любіла —*
*Наўкол хадзіла!*

*А нат' і мыцца не давала —*
*Сама яго наскрозь лізала.*
*На вуліцу сыночка — ані крокам!*
*Як толькі ў сад — пад вокам.*

*А, каб не зраніў ножкі,*
*Нацягвала панчошкі. —*

*

*Каток раз выбег спазаранку*
*На пагулянку. —*
*А сонейка так міла сьвеціць, —*
*Гуляюць на двары ўсе дзеці!*

*Аж тут сабакі — скок!*
*Каток на дрэва — гоп! —*

*Дый ня ўтрымалі ножкі —*
*Пашкодзілі панчошкі...*

*Сабакі ў злосьці, як напалі,*
*У міг той разарвалі!*

*

*Так губіць чалавека*
*Залішняя апека.*

*Сяргей Дзяргай*

## РОДНАЯ МОВА

*Гук слова роднага, з якім ад першых дзён*
*Мяне ў калысцы маці калыхала...*
*Пах хлеба жытняга... Яму й цяпер жадзён,*
*Бо хлеба мне ў дзяцінстве не хапала..*
*І цяжка мне суцішыць і стрымаць*
*Расчуленасць, пачуцці, хваляванне!*
*Цябе, Радзіма, буду апяваць,*
*Пакуль аж не ўздыхну я раз астатні:*
*Дождж дробны, буйны, пад якім я мок,*
*Зямельку, па якой хадзіў я босы,*
*І хаты, і над хатамі дымок,*
*Пахмурыя ці ясныя нябёсы;*
*Глыбокія, бяздонныя віры,*
*І ручаі з празрыстаю вадзіцай,*
*Ссівелыя, калматыя бары.*
*Што жоўтую цярушаць гліцу;*
*Прасцяг палёў, што шчэцию ніў прарос,*
*Шляхі, дзе часам гразка й пескавата,*
*Твой лёс мяне трывожыць і хвалюе.*
*Гук слова роднага... Ды гэта ж ты і ёсць.*
*І цела белае нёманскіх бяроз,*
*Ружовае ад полымя заката.*
*Усё ў табе мне дужасць прыдае,*
*Не зганю й дробязі, усё ў табе хвалю я;*
*Твая бяда і радасці твае,*
*Пах хлеба жытняга... То ж Беларусь — айчына.*
*А я — твой сын, ад косці тваёй косць,*
*Кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.*

«Літаратура і Маст.» 1957.

РОДНАЯ МОВА гэта набытак ці спадчына вякоў, адна з найболыш вартасных і найважнейшых, на мове перадусім апіраецца першапачатковае народнае пачуцьцё: мова вылучае нас ад другіх, а лучыць з сваімі. Зямляком маім ёсьць ня той, якога выдала таясамая зямля, але хутчэй той, што да мяне адзываецца ў маей мове. Калі нас дзеліць грамадзкі стан, веравызнаньне, або адрожнівае палітычная прыналежнасьць, то мова лучыць нас нанава.

*Праф. А. Брукнэр*

---

## ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

*ХТО ВАР'ЯТ?*

Касіян: — Скажы, суседзе, бо сам не магу разабрацца! Чаму ў Савецкім Саюзе самых разумных людзей, асабліва пісьменнікаў, пасылаюць у вар'яцкія шпіталі, а там тых здаровых дактары лечаць як хворых? — Яны-ж могуць іх сапраўды ўвагнаць у хваробу!..

Фабіян: — Пэўна, што могуць і так сапраўды ўганяюць у хваробу.

Касіян: — Але я пытаюся, чаму-у?

Фабіян: — Я-то ведаю, чаму, але не магу табе сказаць!

Касіян: — Ну-у? Скажы! Ты ня бойся, бо справа астанецца між намі...

Фабіян: — Справа тут — простая, але і складная: калі людзі псыхічна здаровыя ня ўмеюць засадзіць у вар'яцкія дамы псыхічна хворых, дык тыя вар'яты захапілі ўладу і цяпер самых чэсных і разумных шлюць у вар'яцкія шпіталі, або ў турмы ці ў лягеры.

Касіян: — Чакай! Але-ж гэтак яны могуць усе народы Саюзу загнаць у пагібель...

Фабіян: — Ці-ж ты ня ведаеш, што яны ўжо гэта зрабілі і 50 гадоў усіх трымаюць у граніцах вар'яцкай сыстэмы...

*ГЛЫБОКАЯ ЗАГАДКА*

К.: — Чаму ў Савецкім Саюзе найцяжэйшы прасьлед рэлігіі існуе ў нашай Беларусі?

Ф.: — Гэта вельмі моцная загадка: на 200 зь лішнім мільёнаў людзей у Саюзе ведае аб гэтым толькі адзін чалавек і толькі ён адзін можа загадку адгадаць і разрашыць.

К.: — Хто гэта такі? і чаму ён адзін?

Ф.: — Гэта Л. *Брэжнёў*. Ён хавае ўвесь сакрэт у самай глыбіні свайго сэрца — так, што ня ведаюць аб гэтым ані Касыгін, ані Падгорны. Бо ўсё залежыць ад Брэжнёва аднаго! Ён хавае ключ ад усіх найважнейшых скарбаў і загадак у Расеі. Каму хоча, таму адмыкае і замыкае, а ўсе толькі надарэмна ўздыхаюць. —

*ВУГОРШЧЫНА*

— А чаму румынская дэлегацыя так хутка ўцякла з Будапэшту?

— Ну, гэта справа зразумелая: як воўк завые, авечкі разьбягаюцца.

## *ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ*

*Ці Ты адважна, ці пад страхам*
*Жывеш і крочыш «Божым Шляхам»?*

*Надзея наша — не ў магіле,*
*Але ў магутнай Божай сіле.*
*О, Беларусы, нам паверце:*
*Ня ўсё канчаецца пры съмерці!*

*Мы знаем ясную дарогу,*
*А «Шлях» вядзе Вас проста к'Богу:*
*У кажнай беларускай хаце*
*Наш «Божым Шляхам» трэ' чытаці!*

*Бо мы тут — згодна з Дэкалёгам —*
*На полі, што ляжыць адлогам,*
*Працуем, сеем зерне нова —*
*Гамонім беларускім словам.*

✳

*Дарма бязбожнікі Вам баюць,*
*Як супраць Бога штось гукаюць,*
*Бо чалавека зганьбавалі*
*І да зьвяр'я прыраўнавалі . . .*

*Душа твая — то анёл Божы —*
*Абраз мастацкі і прыгожы;*
*Бо ад пачатку, ад маленства*
*Мы маем ў Богу падабенства.*

✳

*Пішыце нам аб вашых справах*
*І аб духоўных важных зьявах!*
*Хоць Чытача прымус не вяжа,*
*Аддаць падпіску гонар кажа.*

*Рэдактар шле Вам прывітаньне —*
*Здароўя, шчасьця пажаданьне!*

*— Хрыстос Уваскрос! —*

*а. Я. Г.*

## ЗАГАДКІ:

1) Як яго ўбачыш,
Дык сябе ўвідзіш.

2) Кладзеш на нос,
Чапляеш за вушы,
А вачам памагае?

3) Ня стрыжэцца, ня чэшыцца,
Але з гэтага ня цешыцца?

4) Як стаіць, дык ідзе:
Сам ня ведае, што паказвае.
Рана спаць не дае,
Затое вечарам кручу яго за вуха.

5) Маю чатыры нагі,
Але лёс мой благі:
Хто толькі хоча,
Мяне мучыць у ночы,
Хоць сам жмурыць вочы.

6) Высока носіць «дабро»:
Штодня траціць, ня лічыць
І не дасьць, не пазычыць ? . .
— Хто і што?

## З Ь М Е С Т

### ХРЫСТОС УВАСКРОС!




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14